*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

**№13 л ю т ы 2012**

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***

## Сяргей Каваленка - новы палітвязень



***Суд Першамайскага раёну Віцебска 24 лютага 2012-га году прыгаварыў віцебскага актывіста Сяргея Каваленку да 2 гадоў і аднаго месяца калоніі агульнага рэжыму. У Беларусі зьявіўся яшчэ адзін палітвязень.***

***Сяргея Каваленку прызналі вінаватым у парушэннях рэжыму «хатняй хіміі», якую ён атрымаў за тое, што 7 студзеня 2010 года ўзняў на верхавіне галоўнай ёлкі вобласці нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг.***

## Алеся Бяляцкага этапавалі ў калонію № 2 г. Бабруйска

Праваабаронцу Алеся Бяляцкага этапавалі з Менскага следчага ізалятару № 1 у калонію № 2 Бабруйску. Пра гэта паведаміла жонка Бяляцкага Наталля Пінчук.



Уранку 28 лютага яна наведала СІЗА № 1, каб дазнацца пра месцазнаходжанне мужа. “Працаўнікі ізалятару мне паведамілі, што менавіта сёння Алеся этапавалі на месца адбыцця пакарання, у бабруйскую калонію”, – распавяла жонка праваабаронцы.

Ні пра стан здароўя Бяляцкага, ні пра падрабязнасці ягонага этапавання Наталлі Пінчук не паведамілі. “Зрэшты, я не моцна гэтага дамагалася, бо ўжо ведаю, што ў кампетэнцыю працаўнікоў СІЗА гэта не ўваходзіць”, – заўважыла жонка Бяляцкага.

Як паведамлялася раней, у СІЗА на Валадарскага ў Менску Бяляцкі быў дастаўлены ў канцы мінулага тыдня са следчага ізалятару ў Жодзіна, дзе яго трымалі ад леташняга снежня.

Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, кіраўнік закрытага ўладамі праваабарончага цэнтру “Вясна” Алесь Бяляцкі судом Першамайскага раёна Менску быў асуджаны ў лістападзе на 4 з паловаю гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. ¨н прызнаны вінаватым ва ўтойванні даходаў у асабліва буйным памеры. Сродкі ж  на гэтых рахунках накіроўваліся на дапамогу ахвярам  палітычных рэпрэсіяў у Беларусі ды іхным сем’ям.

## Сяргей Каваленка працягвае галадоўку

28-га лютага палітвязень Сяргей Каваленка сустрэўся ў віцебскім СІЗА-2 з жонкай Аленай. ¨н працягвае галадаць і збіраецца ісці ў гэтым сваім намеры да канца.

Спатканне доўжылася 3 гадзіны. Праз шкло, праз якое ішла размова, Алена паказала мужу сваё фота з дзецьмі. Па словах жанчыны, стан галадоўніка вельмі цяжкі: “Ен страціў ужо каля 30 кілаграмаў. Яму нават нязручна сядзець, бо зусім няма тлушчавай праслойкі. У яго кружыцца галава, баляць сэрца, ныркі, печань. ¨н мне не скардзіўся, гэта я ўжо сама выпытвала”.

Тым не менш, Каваленка збіраецца галадаць і далей.

– Сяргей сказаў мне, што пойдзе ў сваім намеры да канца. Кажа, што ніколі не адчуваў у сабе такой маральнай моцы. Я напачатку размовы спрабавала прасіць, каб ён кінуў галадаць. Аднак муж адразу абарваў гэту размову і сказаў, што болей з гэтага шляху не саступіць. Дадаў, што лічыць ганьбай тое, што тады, раней, пачаў есці. “Я зганьбаваў гэтым і сябе, і тых людзей, якія ў мяне верылі. Каб я не пачаў тады есці, то зараз быў бы ўжо на волі”, – такія былі ягоныя словы. Разам з тым прызнаўся, што фізічныя сілы ў яго ўжо на сыходзе. Максімум, кажа, мяне хопіць на тыдзень. Таму яго трэба тэрмінова ратаваць! – непакоіцца Алена.

Пра свой суд Каваленка ў размове з жонкай адазваўся наступным чынам: “Нават канваіры казалі мне, што я трымаўся годна на судзе. А калі я казаў заключную прамову, уражаныя былі нават міліцыянты і іхнія жонкі, якія сядзелі ў зале ў якасці “народа”. Суддзя нервавалася, у яе хадзілі жалвакі, але было бачна, што ёй дастаўляе задавальненне гэты здзек нада мной”.



Сяргей Каваленка 70 дзён знаходзіцца ў камеры-адзіночцы. “Ніякіх стасункаў ні з кім ён не мае. Камера такая малая, што там можна праходзіць толькі бокам, там няма ніякай свабоды руху”, – распавядае Алена. Вязень шмат чытае. Перачытаў гару класічнай літаратуры: Джэка Лондана, Уладзіміра Караткевіча, “Тутэйшых” Купалы… Зараз чытае Мальера. І Біблію.

Адвакаты Каваленкі павінны заўтра напісаць скаргу на рашэнне суддзі Алены Жук у суд вышэйшай інстанцыі. Нагадаем, што актывіст КХП-БНФ пакараны 2 гадамі 1 месяцам калоніі агульнага рэжыму нібыта за парушэнні рэжыму так званай «хатняй хіміі». Гэта абмежаванне волі яму прысудзілі за сцяг, вывешаны на галоўнай ёлцы Віцебска 7 студзеня 2010 года.

## Гарадзенская абласная пракуратура змагаецца з журналістамі

Гарадзенская абласная пракуратура працягвае выклікаць да сябе незалежных журналістаў. Гэтую ўстанову наведалі паводле афіцыйнай позвы Гражына Шалкевіч, карэспандэнтка Беларускага Радыё Рацыя, незалежны журналіст Алесь Дзянісаў, сябра Беларускай Асацыяцыі Журналістаў з Гародні Віктар Парфёненка, які тройчы цягам трох гадоў падаваў паперы на афіцыйную рэгістрацыю ў якасці журналіста Беларускага Радыё Рацыя, гарадзенскі відэааператар Мікола  Дзятчэня, незалежны журналіст Андрэй Мялешка. У віну ім паставілі выкананне імі сваёй непасрэднай журналісцкай працы. Ім абвешчаныя афіцыйныя папярэджанні за нібыта працу без афіцыйнай акрэдытацыі. Аднак, даць на рукі пісьмовы дакумент пра гэтае папярэджанне начальнік аддзелу па наглядзе за выкананнем заканадаўства Валерый Павядайка адмовіўся. Просьба журналістаў перапісаць змест і сутнасць папярэджання, засталася таксама без задавальнення. Атрымліваецца, што афіцыйныя папярэджанні пракуратуры ўтрымліваюць нейкі сакрэтны сэнс?

# Беларускі тэст на інтэлект

***Цікавая гэта рэч, інтэлектуальныя гульні. Не, не інтэрактыўныя, дзе мадэратар прыводзіць аўдыторыю да захапляльных высноў, якія пасля аб'яўляюцца правільнымі. Бо нібыта выпакутаваныя калектыўным розумам. Інтэлектуальныя гульні гэта нават не тэсты на IQ, дзе балы набраныя па адной сістэме супярэчаць балам, набытым іншым метадам. Інтэлектуальныя гульні вельмі падобныя да загадкі, дзе ісціна ужо вядомая таму, хто загадку задае. А таму, каму задаюць, застаецца толькі яе адгадаць, абапіраючыся на агучаныя факты, уласныя веды і логіку мышлення, калі такая ёсць у наяўнасці.***

Прыкладам. Летам шэры, зімой белы. Хто гэта? Правільна, заяц. Гэта была загадка для дзяцей. Цяпер больш складаная. Якая нацыя лічыцца тытульнай у краіне, дзе афіцыйна абвешчаныя дзяржаўнымі дзве мовы, беларуская і руская? Гэтая загадка ўжо больш складаная для чалавека, які яшчэ не ведае правільнага адказу. Давайце прасочым логіку яго мышлення. Зыходзячы з яе, той логікі, варыянты могуць быць толькі два. Гэта можа быць беларуская нацыя, а можа руская. Далей гуляць у дэдуктыўны метад па гэтаму пытанню хіба не будзем, бо мы ўсе ўжо ведаем правільны адказ. Але чалавеку, які такога адказу не ведае, хіба што прыйдзецца з верагоднасцю памылкі пяцьдзесят на пяцьдзесят проста ў сляпую адгадваць што гэта за нацыя.




¨сць загадкі яшчэ больш складаныя. Вось адна з такіх. Адгадайце, што такога зрабіў гэты чалавек, пра якога вядома наступнае:

(Цытуем пра яго выключна вытрымкі з газет і інтэрнэт сайтаў)

Яго неаднаразова затрымлівала міліцыя. Суд прыгаварыў яго да трох гадоў пазбаўлення волі ўмоўна. Яго ўчынак быў кваліфікаваны як наўмысныя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак і выказваюць яўную непавагу да грамадства. Зараз ён знаходзіцца ў следчым ізалятары, куды быў змешчаны, пакуль ідзе следства па крымінальнай справе. Адвакат і яго жонка атрымалі афіцыйныя адмовы выпусціць яго пад заклад да суду. ¨н трымае галадоўку супраць вылучаных у дачыненні да яго абвінавачанняў. Яго абаронца даведаўся, што ён адмовіўся ад прымусовага кармлення, і стан яго здароўя значна пагоршыўся. Сваякі непакояцца за ягонае жыццё. Вынік можа быць трагічным. А яго жонцы ўжо сёмы раз адмовілі ў сустрэчы з мужам, і яна не выключае, што менавіта з той прычыны, што ён выглядае змучаным і закатаваным. ¨н заяўляе, што гатовы перайсці да сухой галадоўкі.

Старшыня Еўрапарламента Марцін Шульц заклікаў улады Беларусі вызваліць яго. А еўрапарламентар Марэк Мігальскі звярнуўся да старшыні Вярхоўнага суда з просьбай змяніць меру стрымання. Мігальскі паказаў, што той не здзейсніў цяжкага злачынства, а ягонаму здароўю паграджае небяспека з-за галадоўкі, і просіць яго адпусціць, каб той мог атрымаць кваліфікаваную медыцынскую дапамогу.

Дык што ж нарабіў гэты чалавек, якога так моцна ахоўвае беларуская Феміда, не выпускаючы да суда ні пад залог ні для лячэння. І нават ні просьбы, ні заклікі высокапастаўленых еўрапейскіх парламентарыяў не могуць пахіснуць беларускія ўлады ў сваім рашэнні трымаць яго пад вартай.

Зыходзячы з фактаў яго ўтрымання лагічна было б меркаваць, што гэты чалавек зрабіў нешта вельмі страшнае. Можа нават ён здзейсніў жудаснае злачынства супраць чалавецтва і на волі будзе небяспечны для іншых людзей?

Але калі нехта знойдзе менавіта такія адказы на гэтую загадку, то яму лепш пайсці пагуляць у гульні інтэрактыўныя, або паспрабаваць вылучыцца сваім розумам у тэстах на IQ. Бо яму ніколі не выйграць у беларускіх інтэлектуальных гульнях, дзе правільны адказ на гэтае пытанне гучыць сумна і банальна – гэты чалавек, якога судзяць зараз за ўхіленне ад адбывання пакарання, першапачаткова правініўся тым, што ўсяго толькі вывесіў на навагодняй ёлцы у слаўным беларускім горадзе Віцебску… не, не фашыстоўскую свастыку, і не заклік да бунту. А сімволіку, якая яшчэ зусім нядаўна была дзяржаўнай у Беларусі – бел-чырвона-белы сцяг.

*Віктар Сазонаў*

# Хроніка правапарушэнняў

### *Гарадзеншчына, люты*

**10 лютага** да штрафу ў 700 000 беларускіх рублёў суддзя Ленінскага раённага суда Гародні Алена Пятрова засудзіла жыхара Гародні Руслана Пяцько, да якога яшчэ 27-га снежня 2011 году на працоўнае месца прыйшлі супрацоўнікі міліцыі з патрабаваннем "адкатаць пальцы". Для Руслана прыход міліцыі да яго на працу быў нечаканасцю. ¨н не мог зразумець, чым аргументаваная такая неабходнасць і запатрабаваў растлумачыць законнасць дзеянняў супрацоўнікаў міліцыі. Праходзіць дактыласкапію ён адмовіўся.



Супрацоўнікі міліцыі склалі пратакол за непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобе дзяржаўнага органу пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў і перадалі справу ў суд. У судзе не сталі паглыбляцца ў нюансы справы, а проста спаслаліся на Закон Рэспублікі Беларусь "Пра дзяржаўную дактыласкапічную рэгістрацыю", ды прызналі гарадзенскага актывіста, які нядаўна адбараніў сваё права карыстацца ва ўласным аўтамабілі сімволікай "Пагоня", вінаватым.

**16 лютага** журналістку тэлеканала "Белсат" Таццяну Бублікаву выдалілі з суда і ледзь не прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці за спробу сфатаграфаваць супрацоўніка міліцыі. Інцыдэнт адбыўся ў судзе Гарадзенскага раёну, дзе абвяшчалі прысуд былому міліцыянту Дзінасу Лінкусу. Дзінас Лінкус, якога былі перавялі на пасаду начальніка ўпраўлення Дэпартамента аховы Гарадзенскай вобласці, збіў свайго падначаленага. На судовых працэсах таксама прысутнічалі актывісты кампаніі "Наш дом", якія распавядалі, што Лінкус, яшчэ працуючы ў Менску, затрымліваў актывістаў апазіцыі, здзекаваўся і пагражаў ужыць сілу. У выніку журналістам забаранілі здымаць нават абвешчанне прысуду міліцыянту.

**16 лютага** гарадзенскі відэаапаратар Мікола Дзятчэня атрымаў папярэджанне ад Гарадзенскай абласной пракуратуры за працу без акрэдытацыі для тэлеканалу Белсат. У пракуратуру журналіста спачатку выклікалі па тэлефоне. Але ён адмовіўся прыйсці. Пасля міліцыя прынесла позву яму дахаты. На думку пракуратуры некаторыя кадры з грамадскай акцыі ў раённым цэнтры Свіслач, якія былі паказаныя па Белсаце, зробленыя менавіта сябрам БАЖ Міколам Дзятчэнем. Такую высноexternally ву пракурорскія работнікі робяць з таго, што журналіст быў акурат у той час і ў тым месцы, якое і было паказана з экранаў. Як доказ яго месцазнаходжання пракуратура прад'явіла зробленыя невядомымі работнікамі сілавых ведамстваў фотаздымкі. Пасля таго, як журналіст атрымаў папярэджанне і падпісаў пратакол, пракурорскія работнікі адмовіліся даць копію гэтага дакумента папярэджанаму, хоць той патрабаваў гэтага.

**17 лютага** гарадзенскія праваабаронцы падалі заяўку на пікет. Галоўная мэта мерапрыемства – прыцягнуць увагу грамадзянаў Гародні да патрабаванняў айчынных і міжнародных праваабарончых арганізацый звязаных з праблемамі палітычных вязняў і ўмоваў іх ўтрымання у месцах пазбаўлення волі. Паколькі рашэннем Гарадзенскага гарвыканкаму у горадзе адведзеныя толькі два месцы для пра-

# Хроніка правапарушэнняў

## *Гарадзеншчына, люты*

вядзення такіх мерапрыемстваў – Румлёўскі і Каложскі паркі, дзе наведнікі з'яўляюцца толькі па вялікіх святах, праваабаронцы вызначылі ў сваёй заяўцы менавіта святочны дзень для правядзення пікету – 8-га сакавіка.

**18-га лютага** позву за подпісам усё таго ж пракурора Павядайкі атрымаў сябра Беларускай Асацыяцыі Журналістаў з Гародні Віктар Парфёненка, які тройчы цягам трох гадоў падаваў паперы на афіцыйную рэгістрацыю ў якасці журналіста Беларускага Радыё Рацыя. 21 лютага ў гутарцы з намеснікам начальніка аддзелу па наглядзе за выканананнем заканадаўства Валерыем Павядайкам быў згаданы матэрыял Парфёненкі ад 8 снежня 2011 году, які быў прысвечаны адзначэннню ў Гародні юбілею Максіма Багдановіча. Парфёненку абвесцілі папярэджанне.

Гарадзенская абласная пракуратура 21 лютага абвесціла таксама афіцыйнае папярэджанне незалежнаму журналісту Алесю Дзянісаву, які ведамы ў горадзе над Нёманам таксама як рок-музыка. Гутарку з Дзянісавым вёў таксама намеснік начальніка аддзелу пракуратуры Гарадзенскай вобласці Валеры Павядайка.

Гарадзенскім праваабаронцам Віктару Сазонаву і Раману Юргелю гарадскія ўлады адмовілі ў правядзенні пікету ў падтрымку палітвязняў, які планавалася правесці 8 сакавіка. Гарвыканкам афіцыйным лістом за подпісам намесніцы старшыні Ірыны Сенчанковай не даў згоды на правядзенне такога пікету ў Румлёўскім парку, бюракратычна спаслаўшыся на тое, што заяўнікі не прынялі належных мераў па арганізацыі бяспечных умоваў правядзення заяўленага мерапрыемства.



Гарадзенская абласная пракуратура працягвала выклікаць да сябе незалежных журналістаў. Чарговай наведала гэтую ўстанову паводле афіцыйнай позвы Гражына Шалкевіч, карэспандэнтка Беларускага Радыё Рацыя. У віну ёй паставілі звычайныя журналісцкія матэрыялы: асвятленне Дня памяці паўстанцаў 1863 году ў Сьвіслачы, іншыя культурніцкія рэпартажы. Гражыне Шалкевіч абвешчана афіцыйнае папярэджанне за нібыта працу без афіцыйнае акрэдытацыі. Аднак, даць на рукі пісьмовы дакумент пра гэтае папярэджанне начальнік аддзелу па наглядзе за выкананнем заканадаўства Валерый Павядайка адмовіўся. Просьба журналісткі перапісаць змест і сутнасць папярэджання, засталася таксама без задавальнення. Атрымліваецца, што афіцыйныя папярэджанні пракуратуры ўтрымліваюць нейкі сакрэтны сэнс?

**27 лютага** а 9-й раніцы незалежнаму журналісту Андрэю Мялешку патэлефанавалі на мабільнік з абласнога ўпраўлення Камітэту Дзяржаўнай Бяспекі і запрасілі на "прафілактычную гутарку". Тэлефанаваўшы прадставіўся маёрам Жукавым. Мялешка запатрабаваў прадставіць яму афіцыйную позву і сказаў, што прыйдзе толькі пасля яе атрыманнння. Мялешка – гэта ўжо пяты гарадзенскі сябра Беларускай Асацыяцыі Журналістаў, якога патурбавалі за дэкаду з пракуратуры альбо КДБ. Сустрэча прайшла без складання пратаколу. Прычынай выкліку стала "правядзенне апытання ў якасці асобы, якая можа валодаць інфармацыяй, датычнай да нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь". Гутарка мела "прафілактычны" характар.

# Ігнараванне рэальнасці

***Тое, што адбываецца ў асяродку беларускай палітычнай апазіцыі апошнія тыдні іначай як тэатрам абсурду не назавеш. Нечакана цэнтральным пытаннем рэчаіснасці стаў удзел у так званых "парляманцкіх выбарах" альбо байкот гэтай выбарчай кампаніі. Ідуць бясконцыя дыскусіі – удзельнічаць альбо не ўдзельнічаць. У гэтым пытанні ўжо падзяліліся. Далей ідзе наступная стадыя – адны спрачаюцца, як выстаўляць кандыдатаў і на якой стадыі ім "здымацца", іншыя – актыўна весці байкот альбо пасіўна. Давайце спярша разбярэмся з тэрміналогіяй.***

У звычайнай еўрапейскай краіне – палітычная апазіцыя – гэта тая сіла, якая імкнецца да ўлады шляхам законнага удзелу ў легітымных выбарах.

У Беларусі сітуацыя зусім іншая – у нашай краіне і палітычныя партыі і недзяржаўныя арганізацыі разам складаюць агульную дэмакратычную супольнасць, якая мусіць змагацца за карэнную змену, пажадана мірным эвалюцыйным шляхам, не проста асобных элементаў улады, а ўсёй дзяржаўнай сістэмы.

Што такое цяперашнія "выбары ў парлямант"? Фальшыўка, пусты гук, мыльная бурбалка, ня вартая ніякай ўвагі. Ці можа хто стане сцвярджаць, што ў Беларусі нешта вырашае Вярхоўны Савет? Ці можа ёсць рэальны падзел галінаў улады, ці ўсталявана мясцовае самакіраванне? Урэшце, зроблены змены ў выбарчае заканадаўства? Таму відавочна, што з усіх выбарчых працэсаў увагі вартыя толькі кампаніі па выбарах прэзідэнта – толькі тады – у 2001-ым, 2006-ым, 2011-ым былі нейкія шанцы на змену сітуацыі і сэнс выяўляць актыўнасць.

Так, змяніць сітуацыю да лепшага ў 2011 годзе не ўдалося, але беларусы ўсяму свету прадэманстравалі, што яны народ і выявілі тое, што сапраўды адбываецца ў краіне. А можа дэмакратычнай апазіцыі цяпер няма куды прыкласці свае "бурлівыя" магутныя сілы? Дык вось жа яны – усе сама страшныя праблемы і беды краіны навідавоку. Па-першае, палітычныя вязні, стан і сітуацыя з якімі ня можа выклікаць ніякіх супярэчнасцяў сярод апазіцыйных сілаў. Па-другое, апазіцыя мусіць патрабаваць адмены ці хоць бы мараторыю на смяротнае пакаранне. Бо гэта пытанне жыцця і



смерці ў прамым сэнсе гэтых словаў. І жыцця і смерці не толькі двух няшчасных хлопцаў, віна і роля якіх у здзяйсненні тэракту ў метро цалкам так і не была даказаная і высветленая. Калі судовы канвеер такой смерці будзе запушчаны, спыніць яго тады стане яшчэ цяжэй.

Урэшце відавочна і тое, што палітычнае змаганне ў Беларусі – гэта і змаганне найперш з расейскай гаспадарчай і ідэалагічнай экспансіяй, якая ўвесь час нарастае, пагражае суверэнітэту. Сама страшнае тут – пабудова чужой атамнай электрастанцыі. Супраць яе размяшчэння расейцамі ў Беларусі змагаюцца толькі адзінкі з дэмакратычнай супольнасці, іншыя ж праблемы "не бачаць", хаваючы галаву ў пясок. І ўрэшце татальная расеізацыя, якая ўжыццяўляецца рукамі мясцовых манкуртаў. Дайшло да таго, што ў абласных цэнтрах – Магілёве, Менску, Гародні ва ўніверсітэтах скарачаюцца ці зусім зачыняюцца спецыяльнасці беларускай філалогіі. Вышэйшая гуманітарная адукацыя ў Беларусі проста ў катастрафічным стане. А ў Віцебску пастанавілі ліквідаваць нават беларускамоўную частку бібліятэкі.

Тут ужо і каментаваць язык не павернецца... Словам, дзейсна прыкласціся дэмакратычнай апазіцыі ёсць да чаго, чынна папрацаваць ёсць над чым. Відавочныя рэчы і з'явы, якія папросту немагчыма ігнараваць! А калі ж рэальных сілаў зусім няма, то трэба іх гуртаваць і рыхтавацца да сапраўднай справы. А тут столькі жарсцяў, сварак, інтрыгаў вакол абсалютна пустога, стварэнне чарговых кааліцый пад псеўдавыбары, "шасцёрак", дзе і жук і жаба, і партыя, якая пазіцыянуе сябе як абсалютна прамаскоўская, і партыя з заявамі і прэтэнзіямі на правую нацыянальную ідэю.

Сапраўднай дэмакратычнай апазіцыі нельга гуляць па чужых сцэнарах – усё роўна, дзе напісаных: у Маскве, Бруселі, ці ў менскім "чырвоным доме". Інакш скончыцца гэта сумна і нават ганебна.

*Уладзімір Хільмановіч*

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на сакавік 2012 году

**2 сакавіка**

450 гадоў таму (1562) – Нарадзіўся Крыштап Мікалай Дарагастайскі, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, заснавальнік друкарні ў Ашмяне Мураванай.

**3 сакавіка**

245 гадоў таму (1767) – Памёр ¨ган Глаўбіц, архітэктар, які працаваў на Беларусі. Аўтар пабудовы Фарнага касьцёлу ў Лідзе (1765-70).

235 гадоў таму (1777) – Памёр Юзаф Ябланоўскі, дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, гісторык, мецэнат, ваявода наваградзкі ў 1755-73, аднавіў Наваградзкі замак.



**4 сакавіка**

200 гадоў таму (1812) – Памёр Яўхім Храптовіч, грамадзкі, палітычны, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, магнат, публіцыст, паэт, перакладнік. Меў сядзібу ў Шчорсах.

35 гадоў таму (1977) – Памёр Эдуард Гойлік, кампазітар, музычны педагог, хормайстар. Нараджэнец в. Верабейкі (Сьвіслацкі р-н).

**5 сакавіка**

70 гадоў таму (1942) – Нарадзіўся Аляксандар Міхальчык (Берастаўвіцкі р-н), грамадзка-палітычны актывіст, пэўны час старшыня Гарадзенскай гарадзкой арганізацыі партыі БНФ.

35 гадоў таму (1977) – У Нью-Джэрсі (ЗША) памёр Філарэт Родзька, беларускі настаўнік, быў у войску Булак-Балаховіча, дзеяч эміграцыі (ЗША). Нараджэнец в. Вераскава (Наваградзкі р-н), працаваў у Вераскаве і Наваградку.

**7 сакавіка**

45 гадоў таму (1967) – У Сопаце (Польшча) памёр Караль Румель, першы алімпіец зь Беларусі (гульні 1912, Стакгольм), коньнік-спартовец. Нараджэнец Гародні.

**8 сакавіка**

20 гадоў таму (1992) – У Слоніме памёр Міхась Ракевіч, удзельнік патрыятычнага падпольля 1946-47 у Заходняй Беларусі, вязень савецкіх турмаў і канцлягероў. Нараджэнец в. Ваўчкі (Слонімскі р-н). Пахаваны ў в. Клепачы (Слонімскі р-н).

**10 сакавіка**

70 гадоў таму (1942) – У Мсьціславе нарадзіўся Міхась Ткачоў, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, археоляг, пэдагог. Жыў і працаваў у Гародні.

**12 сакавіка**

290 гадоў таму (1722) – Нарадзіўся (каля Наваградку) Бенядыкт Дабшэвіч, тэолаг-езуіт, філосаф.

**13 сакавіка**

215 гадоў таму (1797) – Памёр Юзаф Пац (нар. у 1736), вайсковы дзеяч ВКЛ, удзельнік паўстаньня 1794. Валодаў маёнткам Ражанка (Шчучынскі р-н).

95 гадоў таму (1917) – У Пецярбургу загінуў Уладзімір Хлябцэвіч, удзельнік беларускага грамадзка-літаратурнага руху пач. 20 ст. Пахаваны ў Сызрані (Самарская вобл.). Нараджэнец мяст. Жыровічы (Слонімскі р-н).

**15 сакавіка**

Дзень Канстытуцыі 1994 году

20 гадоў таму (1992) – Памёр Уладзімер Цьвірка (да 1945 г. Вадзім Сурко), дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Ангельшчына, Бэльгія), журналіст. Пахаваны на мюнхэнскіх могілках Вэстфрайдгоф. Нараджэнец в. Беражное (Карэліцкі р-н).

**17 сакавіка**

205 гадоў таму (1807) – Памёр Казімер Нарбут, беларускі асьветнік, педагог, філосаф. Нараджэнец в. Крупава, (Лідзкі р-н).

**19 сакавіка**

80 гадоў таму (1932) – У Асташыне (Наваградзкі р-н) выбухнуў бунт сялян супраць падатковага і нацыянальнага прыгнёту польскіх уладаў. У выніку расправы на наступны дзень 7 чалавек у Наваградку былі павешаныя, яшчэ 46 засуджаныя да турэмнага зьняволеньня.

**25 сакавіка**

Дзень Волі

295 гадоў таму (1717) – У Дзятлаве нарадзіўся Альбрыхт Радзівіл, дзяржаўны дзеяч ВКЛ.

20 гадоў таму (1992) – У Гародні выйшаў першы нумар газэты “Пагоня”.

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя і іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь «Прэзумпцыя» выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку: люты 2012
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры передруку спасылка абавязковая

